Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 24 лютага 1999 г. № 21 (552) Кошт свабодны

## Лукашэнку далі візу

**У панядзелак у Люксембургу на сустрэчы міністраў замежных справаў краінаў Еўрапейскага саюза прынята рашэнне аб адмене агульнай пазіцыі ЕС, якая прадугледжвала візавыя санкцыі ў адносінах да прэзідэнта Лукашэнкі і яшчэ 129 высокапастаўленых чыноўнікаў.**

Гэтую інфармацыю пацвердзілі ў міністэрстве замежных справаў. Нагадаем, што дарога кіраўніцтву Беларусі ў краіны Еўрасаюза закрылася 9 ліпеня мінулага года з-за канфлікту вакол рэзідэнцыяў на тэрыторыі комплекса Драздзы. Цяпер прэзідэнт Лукашэнка зноў можа без перашкодаў падарожнічаць па Еўропе.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Слуга Феміды стаў палітычным уцекачом

**Бабруйскі суддзя Юры Сушкоў папрасіў палітычнага прытулку ў Нямеччыне. Былы суддзя сцвярджае, што на радзіме яму пагражае пераслед з боку ўладаў.**

Сушкоў больш года працаваў суддзёй Ленінскага раённага суда г.Бабруйска. На адным з працэсаў, які ён вёў, былі асуджаныя двое мытнікаў па абвінавачанні ў злачынствах на Бабруйскім гідролізным заводзе. Нядаўна Сушкоў заявіў, што прысуд быў вынесены пад ціскам КДБ і ўладных структураў. Былы суддзя абвінавачвае беларускую судовую сістэму і вышэйшую выканаўчую ўладу ў шэрагу парушэнняў. Гэтыя абвінавачанні Сушкоў выклаў у адкрытым лісце, які накіраваў у АБСЕ, да прэзідэнта Беларусі і па іншых адрасах. У гэтым лісце Юры Сушкоў сцвярджаў, што яму пагражае пераслед і ён не выключае магчымасць эміграцыі. Цяпер суддзя сапраўды шукае прытулку за мяжой.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У ваеннага суддзі скралі пісталет

**Днямі ў Мінску была абрабаваная кватэра члена ваеннай калегіі Вышэйшага суда Беларусі Уладзіміра Сукача.**

Злодзеі ўзламалі дзверы кватэры, калі гаспадары былі на працы. Знеслі не толькі каштоўныя рэчы, але і пісталет, які быў выдадзены суддзі для самаабароны.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## «Смешныя» папярэджанні

**Выканаўчы дырэктар Міжнароднай лігі правоў чалавека (Нью-Йорк) Кэтрын Фіцпатрык зрабіла заяву ў сувязі з папярэджаннямі, якія атрымалі беларускія газеты за асвятленне арганізацыі прэзідэнцкіх выбараў.**

На думку спадарыні Фіцпатрык, «папярэджанні газетам выглядаюць надуманымі і нават смешнымі. Асабліва калі дзеянні газетаў называюць антыканстытуцыйнымі». Кэтрын Фіцпатрык падкрэслівае, што дзейнасць газетаў цалкам адпавядае міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама іншым прававым гарантыям, якія дазваляюць крытычна асвятляць дзейнасць уладаў.

**М.В.**




# Усе на выбары?

*З такім пытаннем карэспандэнт НАВІНАЎ звярнуўся да звычайных прахожых на вуліцах Мінска*

Вось ужо паўтара месяца, як усе сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўныя — з сарказмам, апазіцыйныя — з энтузіязмам, паведамляюць пра выбары прэзідэнта Беларусі, прызначаныя Вярхоўным Саветам 13-га склікання на 16 траўня гэтага года.

А як грамадзяне Беларусі ставяцца да абвешчаных выбараў? Ці чулі пра іх? Ці пойдуць яны галасаваць?

**Аляксандр Міхайлавіч, 52 гады, вайсковец:**

— Я пра гэтыя выбары чуў, але дакладнай інфармацыі не маю. Удзельнічаць у выбарах не буду: я вайсковец і не займаюся палітыкай.

**Губіч Ніна Сяргееўна, 59 гадоў, пенсіянерка:**

— Пра выбары? Канешне, ведаю. Абавязкова пайду на выбары: я за прэзідэнта — гарой. За Аляксандра Рыгоравіча.

*— А калі Лукашэнка не захоча выставіць сваю кандыдатуру на гэтых выбарах?*

— Тады паглядзім, з каго выбіраць. Але на ўчастак абавязкова прыйду.

**Саша, 24 гады, фельчар «хуткай дапамогі»:**

— Першы раз чую ад вас пра выбары. Удзельнічаць? Навошта? І так някепска жывецца. Хлеб ёсць, малако таксама. Палітыка мяне абсалютна не цікавіць.

**Гурноўская Ніна, 42 гады, бухгалтар:**

— Нічога не чула пра выбары. Пайду галасаваць, безумоўна. Краіна ўжо зайшла ў тупік з такім кіраўніком. За каго галасаваць, яшчэ не ведаю. Трэба будзе вывучыць праграмы кандыдатаў, і якімі спецыяльнасцямі яны валодаюць. Нам патрэбны добры эканаміст. Канешне, у нас няма сапраўднай альтэрнатывы Лукашэнку, але і ён — не кіраўнік.

**Вячаслаў, 38 гадоў, намеснік дырэктара фірмы:**

— Я не супраць удзелу ў выбарах, але адчуваю, што яны не адбудуцца. Думаю, што Лукашэнка перасягне сам сябе ў тым, што датычыць яго палітычных паўнамоцтваў. Я буду галасаваць супраць Лукашэнкі, але пакуль не бачу кандыдатуры, якая складзе яму сапраўдную канкурэнцыю.

**Саша, 23 гады:**

— Так, я ведаю пра гэтыя выбары. Але я ж супрацоўнік міліцыі, лейтэнант *(хлопец быў у цывільным — Р.П.)*. Ды і погляды ў мяне... не апазіцыйныя. Таму галасаваць не буду.



**Івашкіна Валянціна, 46 гадоў, адміністратар харчовай крамы:**

— Я пра выбары даведалася толькі што, але калі яны адбудуцца, то я пайду галасаваць. Жыццё ў нас не вельмі добрае, з праблемамі. Спадзяюся — можа, што зменіцца?

**Аляксандр Раманавіч, 50 гадоў, камерцыйны дырэктар фірмы:**

— Я абавязкова пайду на выбары. Ёсць Канстытуцыя, якую ніхто не адмяняў, і трэба ўсё рабіць на яе падставе. Буду галасаваць за Чыгіра. Чаму? Складанае пытанне. Відаць, гэта адзіны годны кандыдат.

**Яўген, 30 гадоў, прыватны прадпрымальнік:**

— Ніколі не чуў пра выбары. Але, напэўна, не пайду на іх. Я не зусім падтрымліваю палітыку Лукашэнкі, але альтэрнатывы яму не бачу.

**Генадзь, 27 гадоў:**

— На прэзідэнцкія выбары пойду абавязкова. Больш трываць няма сіл. За каго буду галасаваць, пакуль не вызначыўся, але можа нават і за Чыгіра.

**Ірына, 22 гады, студэнтка:**

— Я пайду на выбары — каб толькі яны адбыліся.

**Чатыры кіроўцы-«дальнабойшчыкі», на падпітку:**

— Мы пра прэзідэнцкія выбары ведаем, падтрымліваем, але апасаемся прымаць у іх удзел. Генеральны пракурор жа забараніў іх. Мы будзем галасаваць толькі «супраць». Супраць гэтага прэзідэнта. Альтэрнатывы яму няма. Мы ніводнага палітыка не ведаем.

— За пяць гадоў, пакуль Лукашэнка ва ўладзе, ніякага паляпшэння не было. Мой цесць жыве ў Гомелі, працуе на хімзаводзе, увесь час у працівагазе. Ты змог бы працаваць у процівагазе? Цесць атрымоўвае за сваю працу тры з паловай мільёны. Хіба гэта жыццё? Мы, «дальнабойшчыкі», афіцыйна атрымоўваем за сваю працу чатыры з паловай мільёны. Таму калі ёсць дзе магчымасць украсці, мы крадзём. Дзяржава не дае нам сумленна зарабіць.

— Мой бацька кажа: «Лукашэнка — гэта ненармальны чалавек; нам патрэбны Сталін». Мы баімся, што беларусы зноў абяруць не таго.

**Жэня, 21 год, студэнт:**

— Я пра выбары чуў па беларускім тэлебачанні — там такі сівы вусаты дзядзька выступаў. Калі выбары будуць праводзіцца, то пайду. Праўда, думаю, пасля гэтых выбараў нічога не зменіцца. Я, так бы мовіць, латэнтны палітык і баюся, як бы не здарылася са мной якіх непрыемнасцяў — вядома, што ўлады робяць з апазіцыянерамі. Я б галасаваў за БНФ — але Пазьняк у Амерыцы, ён, відаць, сюды не прыедзе, а астатніх я не ведаю.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Як нас перапісвалі

**Учора ў Беларусі завяршыўся перапіс насельніцтва, але яшчэ на працягу пяці дзён лічыльнікі будуць удакладняць атрыманую інфармацыю. Таму не выключана, што яны могуць зноў звярнуцца з пытаннямі да некаторых грамадзянаў.**

Рэдакцыя НАВІНАЎ, а таксама Таварыства беларускай мовы атрымалі шмат тэлефанаванняў ад грамадзянаў, якія скардзіліся на лічыльнікаў. Найбольш — за адсутнасць перапісных лістоў на беларускай мове. Па гэтай прычыне некаторыя адмаўляліся наогул адказваць на пытанні. Здаралася, што лічыльнікі самі вырашалі моўнае пытанне. Напрыклад, у вайсковай частцы «Печы» капітан Трусаў прымушаў салдат называць рускую мову роднай. Капітан сцвярджаў, што атрымаў інструкцыю лічыць роднай тую мову, на якой яго падначалены вучыўся ў школе. Жыхар горада Іванава Васіль Прадун распавёў, што ў час перапісу яго 77-гадовай маці лічыльніца запісала роднай рускую мову, хаця яна размаўляе на заходнепалескай. Лічыльніца адказала, што ёй загадалі пісаць менавіта так. Некаторыя грамадзяне абураліся, што лічыльнікі запаўнялі анкету па тэлефоне альбо запісвалі тэлефоны перапісаных грамадзянаў.

Пасля заканчэння перапісу лічыльнікі абавязаны здаць свае партфелі, якія міністэрства статыстыкі і аналізу пашыла для гэтай акцыі. Яны будуць захоўвацца на складзе.

**Алесь ГУРЫНОВІЧ,**
**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Аляксей Шыдлоўскі – на волі

**Без двух дзён паўтара года правёў у турме актывіст Маладога Фронту Аляксей Шыдлоўскі за тое, што ў жніўні 1997 года распісаў сцены Стоўбцаў антыпрэзідэнцкімі лозунгамі.**

Учора апазіцыянера нарэшце выпусцілі на волю. Па амністыі, ад якой Аляксей адмаўляўся. Працэдура вызвалення таксама сведчыць пра стаўленне ўладаў да сваіх палітычных праціўнікаў: Шыдлоўскага «выштурхнулі» за турэмную браму па сігналу толькі пасля таго, як разышлася моладзь, якая чакала яго з раніцы. Сваё першае інтэрв'ю на волі Аляксей даў нашай газеце.

— Мяне вызвалялі з парушэннем усіх турэмных інструкцыяў і чалавечых традыцыяў. З раніцы ў атрадзе ўчынілі шмон — усё спадзяваліся знайсці нейкія забароненыя рэчы. У мяне адабралі турэмны фотаздымак, а потым выклікалі да кіраўніцтва, нават не даўшы забраць рэчы і развітацца з сябрамі. Дваццаць хвілінаў трымалі пад снегам у двары. Я ламаў галаву — навошта. Аказваецца, пільнавалі момант, калі хлопцы, што прыйшлі мяне сустракаць, адышлі паснедаць. Дачакаліся — і я на волі. Першае, што зрабіў — зняў і кінуў ля турмы турэмную фуфайку і шапку.

*— Ну і як яно, турэмнае жыццё?*

— За паўтара года было ўсякае. І збівалі, і дапамагалі. Турма не цукар, у ёй я схуднеў, але і падрос на 2 сантыметры. А ўвогуле парадкі ў беларускіх турмах, у тым ліку ў мінскай на вуліцы Кальварыйскай, вельмі далёкія ад еўрапейскіх нормаў, і не толькі ў бытавым сэнсе. Зняволеныя абсалютна бяспраўныя. І скардзіцца бессэнсоўна, бо скаргі да адрасатаў не даходзяць, а толькі спараджаюць новыя праблемы.

*— Што збіраешся рабіць далей?*

— Атрымаць пашпарт, знайсці працу, пажадана журналісцкую, працягвацьву чобу. А бліжэйшыя планы — у чацвер прыйсці да турмы на пікет-сустрэчу з людзьмі, якія выказвалі мне падтрымку.

*— Які ён, першы смак волі?*

— Шчасце нават памахаць рукамі без наступстваў для сябе. І яшчэ моцнае адчуванне, што жыццё стала іншым — але пакуль я не высветліў, якім.

*— Яшчэ раз віншуем з вызваленнем!*

— Дзякуй усім. Жыве Беларусь!

*Запісаў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Выйсце ў прымусовым лячэнні?

**У Беларусі пагаршаецца сітуацыя з алкагалізмам і п'янствам.**

Медыкі сцвярджаюць, што тэрмінова неабходна адчыніць яшчэ два мужчынскія ЛПП (лячэбна-працоўныя прафілакторыі) і як меншае адзін жаночы.

Цяперашнія два ЛПП, разлічаныя разам толькі на дзве тысячы хворых на алкагалізм, ужо перапоўненыя. Толькі ў мінскім гарадскім дыспансеры на ўліку знаходзіцца больш за 32 тысячы алкаголікаў — гэта афіцыйна зарэгістраваныя хворыя, а сапраўдная колькасць значна большая. Спецыялісты сцвярджаюць, што гэтую лічбу патрэбна памножыць у пяць разоў, каб атрымаць поўную карціну. Медыкі вельмі занепакоеныя ростам колькасці псіхозаў на глебе алкагалізму.

Як нам паведамілі ў гарадскім наркадыспансеры, склалася крытычная сітуацыя з ростам колькасці наркаманаў і таксікаманаў, асабліва сярод непаўналетніх. З гэтай нагоды Савет міністраў збіраецца прыняць пастанову аб прымусовым лячэнні падлеткаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Свабоднае слова з Вільні

**Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус лічыць, што стварэнне на тэрыторыі яго краіны прыватнай радыёстанцыі «Балтійская хваля», якая будзе вяшчаць на Беларусь, не пашкодзіць добрым адносінам паміж дзвюма краінамі.**

Аб гэтым Валдас Адамкус заявіў падчас нядаўняй сустрэчы з амбасадарам Беларусі ў Вільні Уладзімірам Гаркуном.

Нагадаем, што з ініцыятывай стварэння на тэрыторыі Літвы такой радыёстанцыі выступіў дэпутат Сейма ад кіруючай партыі кансерватараў Рымантас Плейкіс. Такім чынам ён хоча зламаць манаполію Аляксандра Лукашэнкі на электронныя СМІ і прадаставіць жыхарам Беларусі поўную, аб'ектыўную і непадцэнзурную інфармацыю аб падзеях у нашай краіне. Беларускія ўлады, відаць, разумеюць, якую небяспеку можа ўяўляць для іх падобны «голас». Пасол Гаркун заявіў, што заснаванне ў Літве такой радыёстанцыі можа пагоршыць беларуска-літоўскія добрасуседскія адносіны. На думку Гаркуна, стварэнне «Балтыйскай хвалі» не з'яўляецца выключна прыватнай ініцыятывай, паколькі заснавальнікам радыёстанцыі выступае дэпутат парламента суседняй краіны, а падтрымку гэтаму праекту аказвае спікер літоўскага Сейма Вітаўтас Ландсбергіс.

Рымантас Плейкіс паведаміў журналістам, што ён мае цвёрды намер стварыць радыёстанцыю і ўжо атрымаў на рэалізацыю гэтага праекта 50 тысяч долараў ад брытанскага Вестмінстэрскага фонду ў падтрымку дэмакратыі.

**Язэп СІНІЦКІ**

# У грамадстве пануе страх і апатыя

*Статкевіч даў інтэрв'ю нямецкай газеце*

Лідэр Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай грамада) Мікола Статкевіч даў інтэрв'ю ўплывовай нямецкай газеце *Frankfurter Allgemeine* падчас візіту ў Германію па запрашэнні нямецкіх сацыял-дэмакратаў, чый кіраўнік Герхард Шродэр абраны сёлета бундэсканцлерам.



Мікола Статкевіч распавёў нямецкім чытачам, што тры найвялікшыя апазіцыйныя партыі ў Беларусі (Сацыял-дэмакратычная, Аб'ядная грамадзянская і Беларускі Народны Фронт) вырашылі падтрымаць 16 траўня прэзідэнцкія выбары, бо прэзідэнцкія паўнамоцтвы дыктатара заканчваюцца ў ліпені. Дату прызначылі каля 60 дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Арганізацыя выбараў, на думку М.Статкевіча, дае магчымасць апазіцыі разгарнуць палітычную кампанію. Арганізаваць выбары вельмі складана, бо прэзідэнт распачаў сапраўдныя супрацьдзеянне. Па словах Міколы Статкевіча, *«у беларускім грамадстве пануе страх і апатыя»*, таму вельмі складана сабраць неабходныя 100 тысяч галасоў, каб зарэгістраваць кандыдата. Многія грамадзяне баяцца паведаміць нумар пашпарта альбо паставіць подпіс, бо апасаюцца рэпрэсіяў з боку спецслужбаў. Цэнтральная выбарчая камісія, верагодна, будзе перашкаджаць з кватэры на кватэру, бо ўлады ў любым выпадку будуць перашкаджаць яе працы.

Як распавёў Мікола Статкевіч ў гутарцы з карэспандэнтам газеты *Frankfurter Allgemeine*, беларускія сацыял-дэмакраты, якіх налічваецца каля 2.500, будуць падтрымліваць выбарчую кампанію, каб праявіць салідарнасць з апазіцыяй. Кандыдатам на прэзідэнцкую пасаду сацыял-дэмакраты вылучылі былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. М.Статкевіч спадзяецца, што гэтую кандыдатуру падтрымае і Аб'ядная грамадзянская партыя.

Па словах старшыні БСДП (Народная грамада), з-за эканамічнага крызісу папулярнасць прэзідэнта Лукашэнкі падае. Аднак Лукашэнка мае шанцы застацца пры ўладзе, апроч таго у Расіі ён як палітык мае папулярнасць і перспектыву поспеху на прэзідэнцкіх выбарах.

Беларускія сацыял-дэмакраты, як піша далей *Frankfurter Allgemeine*, вырашаюць цяпер складанае пытанне: альбо яны будуць заставацца ў шэрагах радыкальнай апазіцыі да прэзідэнта Лукашэнкі, альбо ўсё ж прымуць удзел у запланаваных Лукашэнкам несвабодных выбарах. У мясцовых выбарах Сацыял-дэмакратычная партыя не будзе прымаць удзел, аднак ёсць сябры, якія маюць мужнасць і сілу выступіць у якасці асобных кандыдатаў. Мікола Статкевіч упэўнены, што вынікі камунальных выбараў будуць сфальсіфікаваныя.

У інтэрв'ю *Frankfurter Allgemeine* Мікалай Статкевіч падкрэсліў вялікае значэнне заходняй дапамогі для нашай краіны, а таксама пратэстаў заходніх палітыкаў супраць пераследу апазіцыі, іначай яму «давялося б сядзець за кратамі не паўтара месяца, а некалькі гадоў».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## РАЗДАВІМ ФАШЫСЦКУЮ ГАДЗІНУ!

**У СУБОТУ**

**27**

**ЛЮТАГА**

**Збор на плошчы Якуба Коласа ў**

**11.30**

**АНТЫФАШЫСЦКАЯ МАНІФЕСТАЦЫЯ**

*Праваабарончы цэнтр «Вясна-96»*
*Беларускі Хельсінкскі Камітэт*
*Грамадзянская ініцыятыва Хартыя'97*

## Страмкоўскую ў апошні раз папярэдзілі

**Адвакат Вера Страмкоўская атрымала строгую вымову ад кіраўніцтва Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.**

Як ужо паведамлялі НАВІНЫ, у калегію са скаргай на Страмкоўскую звярнулася суддзя Кіраўскага суда Н.Чмара.

Прэзідыум калегіі адвакатаў у мінулы панядзелак разгледзеў скаргу суддзі і прыйшоў да высновы, што В.Страмкоўская парушыла адвакацкую этыку. У віну ёй пастаўленыя некалькі фактаў. Па-першае, тое, што адвакатка «ўступіла ў палеміку» з доктарам, які аглядаў яе падабароннага В.Старавойтава. Па-другое, «неэтычна» з боку Страмкоўскай было абараняць дэпутата В.Шчукіна, не заключыўшы папярэдне з ім дамовы. Страмкоўская сама ўнесла ў адвакацкую касу грошы, якія павінен быў заплаціць Шчукін. Той факт, што дэпутата даставілі ў суд пад канвоем і без капейкі, на думку калегіі адвакатаў, не апраўдвае Страмкоўскую. Як і тое, што праз пэўны час Шчукін вярнуў адвакатцы грошы. *«Вам трэба мець пэўны запас шчукінскіх грошай на выпадак новых працэсаў над ім»*, — на поўным сур'ёзе параілі адвакатцы члены прэзідыума і прагаласавалі за «строгую вымову».

Далейшы адвакацкі лёс Страмкоўскай не вызначаны. *«Мне сказалі: ідзіце, працуйце, але падумайце над сваімі паводзінамі. Я гэта разумею як непрыкрыты ціск і пагрозу. Ад мяне хочуць пакорлівасці, аднак я не лічу сябе вінаватай і ўвогуле не магу не працаваць так, як патрабуе мая прафесія»*, — кажа Вера Страмкоўская.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Гісторыю краіны пішуць школьнікі

**Падведзеныя вынікі конкурсу «Паўсядзённае жыццё. 1945—1975», які праводзілі сярод школьнікаў Беларусі Архіў найноўшай гісторыі і Таварыства беларускай мовы. Аўтары чатырох работ, прызнаных найлепшымі, атрымалі галоўныя прэміі — мультымедыйныя камп'ютэры.**

Шматлікія ўдзельнікі дасылалі для разгляду журы запісы ўспамінаў, дакументы і фотаздымкі. Часцей работы ўяўлялі сабой тэксты, некаторыя былі запісаныя на аўдыёкасеты, а адна мела выгляд спецвыпуску школьнай газеты. Журы разгледзела 111 работ, з ліку якіх былі абраныя пераможцы. Усяго прысуджана 4 першыя прэміі (камп'ютэр), 9 другіх (набор: фотаапарат і дыктафон) і 19 трэціх (дыктафон). Астатніх удзельнікаў журы ўзнагародзіла кніжкамі, падпіскай на часопіс «Спадчына», газеты «Наша ніва», «Наша слова» і іншыя незалежныя выданні, а таксама аўдыёзапісамі беларускага року.

З прыемнасцю паведамляем нашым чытачам імёны пераможцаў. Навучэнка Мінскага тэхналагічнага тэхнікума Ганна Рудкіна атрымала першую прэмію за работу «Паперы з бабулінай скрыні». Яшчэ адзін камп'ютэр паехаў у вёску Луцкаўляны Гродзенскага раёна, дзе жывуць дзевяць аўтараў калектыўнага твора «Гісторыя аднаго калгаса». Пераможцамі таксама сталі вучаніца Койданаўскай СШ №2 Вольга Вялікая, якая зрабіла даследаванне дагэтуль невядомай гісторыі дзейнасці падпольнай маладзёжнай антысавецкай арганізацыі ў Лідзе, і Анатоль Паўлоўскі з Навапалацкага ліцэя, аўтар «Гісторыі Полацкага аэрадрома».

Як паведамілі арганізатары конкурсу, усе матэрыялы плануецца выпусціць асобнай кніжкай, якая выйдзе ў красавіку. Іх таксама будзе выкарыстоўваць у сваёй працы Архіў найноўшай гісторыі.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**



*СПАЖЫВЕЦКІ КОШЫК*

## Куды знікаюць прадукты?

**У беларускіх крамах зноў адчуваецца недахоп некаторых прадуктаў харчавання. Даўно сталі дэфіцытам мяса, вараныя каўбасы і цвёрдыя сыры, а цяпер гэты спіс папоўніўся маслам, тварагом і цукрам. У Мінску і іншых гарадах краіны цяжка купіць малочныя прадукты і яйкі. Калі гэтыя прадукты з'яўляюцца ў продажы, за імі выстрайваюцца даўжэзныя чэргі, прычым як у дзяржаўных крамах, так і на рынках.**

Чыноўнікі з ведамстваў, якія займаюцца забеспячэннем насельніцтва прадуктамі, тлумачаць дэфіцыт тавараў некалькімі прычынамі. Цікава, што цяпер яны амаль не ўспамінаюць версію аб вывазе кантрабандыстамі танных беларускіх тавараў на продаж за мяжу, якая была вельмі папулярнай падчас восеньскага «яечнага крызісу». Відаць, ахоўнікі эканамічных інтарэсаў РБ з МУС, Мытнага камітэта, Дзяржкантролю і ведамства генерала Шэймана надзейна перакрылі ўсе лясныя сцежкі, не гаворачы ўжо аб вялікіх дарогах, што вядуць у Расію.

Супрацоўнікі міністэрстваў гандлю і сельскай гаспадаркі на пытанне «Куды зніклі прадукты?» даюць самыя разнастайныя адказы, зрэшты, не асабліва арыгінальныя. Аказваецца, цукру ў крамах няма таму, што народ пачаў масава гнаць з яго самагонку (сабекошт саматужна зробленай «вогненнай вады» ў 4—5 разоў меншы за цану дзяржаўнай гарэлкі). Таннае мяса, каўбасы і куры зніклі з продажу па прычыне недахопу камбікармоў — жывёла за зімовы стойлавы перыяд натуральна страціла вагу. Адпаведна ўпалі і надоі, так што малака нават у чыстым выглядзе не хапае для забеспячэння патрэбаў насельніцтва, не гаворачы ўжо аб вырабе тварагу, сыроў, ёгуртаў і іншых прадуктаў.

Улады ў цэнтры і на месцах ледзь не штодня праводзяць калегіі, нарады, паседжанні розных штабоў, на якіх абмяркоўваюць праблемы барацьбы з дэфіцытам і забеспячэнне краіны харчаваннем. Тым часам сельгаспрадпрыемствы не хочуць працаваць сабе ва ўбытак і прадаваць прадукцыю па фіксаваных цэнах.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*НАДВОР'Е*

На гэтым тыдні нашая краіна трапіла пад уплыў аднаго з «паўднёвых» цыклонаў, якія ўтвараюцца над Міжземным або Чорным марамі і нясуць з сабою моцныя ападкі. Каварныя «паўднёвыя» цыклоны з вялікай хуткасцю праносяцца на поўнач, амаль заўсёды закранаючы тэрыторыю Беларусі.

Вось і гэты «паўднёвы госць» яшчэ ў панядзелак быў над поўначчу Італіі, а сёння ягоны цэнтр знаходзіцца над усходам нашай краіны і перамяшчаецца ў накірунку Віцебскай вобласці, дзе назіраюцца складаныя ўмовы надвор'я: снег, завіруха, заносы на дарогах і наліпанне мокрага снегу на правады.

У далейшым цыклон, паступова губляючы сілу, будзе перамяшчацца на поўнач. 25 і 26 лютага чакаецца кароткачасовы снег, тэмпература будзе паніжацца: 25-га ноччу 3—8, днём — 0—3 градусы марозу, 26-га ноччу — мінус 6—11 градусаў, удзень ад +1 да -4.

Аднак пахаладанне не будзе працяглым, хутка чакаецца атака новага цыклона, і да канца лютага разлічваць на спыненне ападкаў не даводзіцца.

**Вера ЧЫЖЫК,**
*інжынер-сіноптык Белгідраметцэнтра*

ЭКАНОМІКА

# Начнем сначала?

(Продолжение, начало в № 19)

Беларуси, как и другим странам, посвящены отдельные страницы доклада Европейского банка реконструкции и развития за 1998 г. В представленном коротком резюме содержится (на взгляд экспертов ЕБРР) наиболее важная информация о ходе реформ и макроэкономической ситуации в целом.

## Белорусские реформы глазами иностранцев

***Девальвация.*** Административная валютная политика инициировала кризис денежной единицы, который был усилен финансовым кризисом в России.

В марте 1998 г. белорусский рубль девальвируется на 30% после увеличения на 107 % внутреннего кредитования Национальным банком РБ в течение 1997 г. Денежная единица продолжала резко падать в течение года. *Соотношение между административным и рыночным курсом национальной валюты увеличилось до 200% (на середину сентября).*

При недостатке адекватных иностранных резервов Национальный банк был неспособен стабилизировать рубль. Это расширило административное вмешательство со стороны правительства в экономику, чтобы предотвратить рост цен и дальнейшую девальвацию.

В декабре 1997 г. Нацбанк позволил некоторую гибкость коммерческим банкам в установке наличных тарифов обмена, хотя безналичный курс по-прежнему устанавливается административно. Однако, Нацбанк повторно ввел ограничения обратимости рубля после кризиса денежной единицы. Президент издал декрет, требующий восстановить наличные тарифы обмена до предкризисного уровня. Экспортерам теперь требуется продать 40% их валютной выручки по административно устанавливаемому курсу. *Начиная с середины августа 1998 г., экспортерам запрещают принимать платежи в белорусских рублях от иностранных партнеров.*

***Приватизация.*** Целью приватизации, начатой в 1993 г., было разгосударствление 2/3 всех предприятий к 2000 г. Приблизительно 33% предприятий, которые попали под приватизацию, было преобразовано в акционерные общества и частично приватизированы к середине 1998 г. Со второй половины 1997 г. по апрель 1998 г. были приватизированы 160 коммунальных (обычно малых) предприятий. *Ни одно из пяти больших предприятий, подготовленных к приватизации в ноябре 1997 г., не были приватизированы. Президентский декрет в июне 1998 г. отменил приватизацию одного из самых больших универмагов в г. Минске, который был приватизирован годом ранее, и запретил приватизацию двух других главных универмагов.*

Президентский декрет о приватизации в марте 1998 г. устранил требование о парламентском утверждении ежегодных списков объектов, подлежащих приватизации, смягчил условия для арендных и нерентабельных предприятий, дал местным властям полные права на приватизацию и реструктуризацию коммунальных предприятий.

***Предприятия.*** Согласно официальным данным, индустриальный рост составил 18% в 1997 г. и 13% в течение первой половины 1998 г. Это объяснялось увеличением экспорта в Россию в 1997 г. на 50 %, а также увеличением на 16 % капиталовложений. Заработная плата в промышленном секторе повысилась более чем на 30% в течение 1997 г., опережая увеличение производительности труда (19%). Официальные данные сообщают о снижении числа убыточных предприятий в индустриальном секторе от 18% в 1996 г. до 13% в 1997 г. *Однако, общее число убыточных фирм оценивается от 20% до 25%. Задолженность предприятий составила более чем 40% от ВВП к концу 1997 г. Ни одно предприятие не было объявлено банкротом согласно закону о банкротстве.*

Правительство продолжает поддерживать принадлежащие государству предприятия посредством кредитов и средств из бюджетных фондов. Однако, долги предприятий к бюджету увеличились в течение 1997 г. более чем вдвое. В декабре 1997 г. правительство заимствовало 500 миллиардов у Национального банка, чтобы ликвидировать долги предприятий за электроэнергию. В марте 1998 г. президентский декрет приостановил выплату долгов сельскохозяйственными предприятиями бюджету и внебюджетным фондам до 2000 г. *Правительство также постановило, чтобы коммерческие банки открыли 2 триллиона субсидированной линии кредита сельскохозяйственным предприятиям.*

В декабре 1997 г. невыплаченная заработная плата составляла в колхозах почти 55 % от общего фонда оплаты труда (по сравнению с 10,5 % для экономики в целом).

Президентский декрет, предоставляющий право «золотой акции» в управлении предприятий был издан в январе 1998 г. Декрет дает право вето государственным представителям на решения предприятия по реорганизации. Другой президентский декрет добавил неопределенность, отменяя существующие налоговые и таможенные привилегии иностранным инвесторам и предоставляя право президенту на предоставление таких привилегий. Иностранные капиталовложения составили почти 190 миллионов US$ (1,4% ВВП) в 1997 г.

***Инфраструктура.*** Цены на коммунальные услуги не отражают уровня затрат. Несмотря на усилия правительства поднять сервисные тарифы, чтобы достигнуть полного восстановления их реальной стоимости в 1998 г., ускоряющаяся инфляция замедлила реализацию тарифной реформы. *С середины апреля 1998 г. правительство увеличило тарифы на воду и канализацию на 30 %, а в мае 1998 г. — почти на 20%; Согласно официальным источникам, эти изменения подразумевают соотношения 29% для воды и 37 % для канализации от их реальной стоимости.*

***Финансовые учреждения.*** В начале 1998 г. в Беларуси действовали 27 коммерческих банков. Продолжалась ликвидация 9 банков, были приостановлены лицензии двух банков. Три банка (с доминирующим государственным участием) объединяют почти 75 % общих капиталов банковской системы страны. *К январю 1998 г. только 12 из 27 банков достигли нормативов, установленных двумя годами ранее, по формированию уставного фонда в 2 миллиона ECU.*

Согласно президентскому декрету в июле 1998г., валютная и фондовые биржи объединены, подразумевая национализацию фондовой биржи, 60% которой до этого было в частных руках.

***Социальное обеспечение.*** Бюджетная эффективность остается управляемой, но испытывает недостаток прозрачности. Налоговые доходы составляли почти 32 % ВВП в первой половине 1998 г. Это одно из самых высоких соотношений в СНГ, что отражает высоко облагаемые доходы и хорошо контролируемые налоговые правила. Дефицит бюджета, сообщенный властями, составил 2,7% ВВП в 1997 г. *Общий бюджет включает все дополнительные бюджетные фонды, за исключением Президентского фонда, чей размер и счета не раскрыты, и Социального фонда, который тратит около 13 % ВВП.*

## Прогноз для Беларуси

**Как видно, эксперты ЕБРР обратили внимание на две главные составляющие: продолжение административного вмешательство в экономику и не менее губительную политику раскрутки печатного станка. И то, и другое, по их мнению, не будет способствовать экономической стабилизации.**

**Прогноз для нас неутешительный: иностранных капиталовложений, необходимых для более интенсивного развития экономики, мы не дождемся.**

**Пожалуй, единственное, что отмечено как успех на всем просторе СНГ, это собираемость налогов. Но и здесь не обошлось без «ложки дегтя» — для экспертов так и осталось загадкой: каким образом может существовать некий никому не подконтрольный Фонд президента? Как впрочем и отсутствие прозрачности расходования средств из Фонда социальной защиты.**

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ**

***Источник: Transition report 1998. European Bank for Reconstruction and Development, 1998***

**Юры ХАДЫКА**

# Змест нацыянальнай ідэі

Незалежная, самастойная дзяржаўнасць ёсць стрыжань нацыянальнай ідэі. Альбо абалонка. Але сама па сабе гэтая абалонка пустая, а таму бессэнсоўная. Яна павінна быць напоўненая тым зместам і тымі каштоўнасцямі, якія вылучаюць дадзеную нацыю з шэрагу іншых. Робяць яе самадастатковай і здольнай да самаразвіцця ва ўмовах канкурэнцыі з суседнімі нацыямі. Галоўным дзейнікам, які нават вонкава адрознівае адну нацыю ад другой, з'яўляецца мова. Нават яшчэ шырэй — культура. Вобраз жыцця. Але менавіта мова выступае не толькі як галоўны сродак духоўнага жыцця нацыі, але і галоўны сродак яе абароны, паколькі праз родную мову новыя пакаленні засвойваюць як нацыянальныя, так і агульначалавечыя каштоўнасці.

## Этнонім – беларусы

Летапісы сведчаць, што нашыя продкі мелі выбар — прыняць хрысціянства з Захаду ці Усходу. Натуральна, што перамог Канстанцінопаль, а не Рым. Ён быў і бліжэйшы і багацейшы. На яго баку была і тая перавага, што існавала ўжо літургічная літаратура на мове паўднёвых славянаў — мове, якую сёння мы завём царкоўнаславянскай.

Хрысціянства спрыяла ўсталяванню манархічнага дзяржаўнага ладу. Аднак рэшткі старажытных рэспубліканскіх парадкаў яшчэ доўга захоўваліся, напрыклад, у Полацку — першай гістарычна вядомай беларускай дзяржаве.

З хрысціянізацыяй славянскага насельніцтва даволі хутка пачынаюць знікаць назвы буйнейшых славянскіх плямёнаў. У летапісах іх замяняе тэрмін «русь». З XIX ст. многія вучоныя біліся над таямніцай яго паходжання. Яго спрабавалі звязаць з племем Раксаланаў, якое згадвалі старажытныя гісторыкі Страбон, Пталемей і Тацыт. Са скандынаўскім племем, якое жыло на востраве Руген. З назвамі рэкаў ці азёраў.

Толькі ў 50-х гадах бягучага стагоддзя польскі гісторык-медзіявіст Пашкевіч абгрунтаваў тэорыю паходжання тэрміну Русь, як вызначэння візантыйскай царкоўнай правінцыі славянскага абраду, для чаго рэлігійныя грэкі скарысталі згадку з Бібліі аб правадыры неакрэсленага паўночнага народа па імені Рош. Гіпотэза аб тым, што русь ёсць хрысцільнае імя велізарнай сукупнасці плямёнаў (у тым ліку і неславянскіх), не толькі здымае ўсе супярэчнасці ранейшых гіпотэзаў, але і знаходзіць прамое пацверджанне ў летапісах.

Такім чынам Русь — не этнонім, а канфесіёнім, нададзены грэкамі сваёй паўночнай царкоўнай правінцыі. Ён азначае прыналежнасць да пэўнай хрысціянскай канфесіі і мовы богаслужбы. Толькі з цягам часу ён набывае характар этноніма.

У пачатку XIII ст. усходнеславянская дзяржаўнасць перажывае глыбокі крызіс. З усходу нарастае пагроза татара-мангольскага нашэсця, з захаду — крыжацкага. І тады ў заходняй частцы Беларусі паўстае новая дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае і Рускае са сталіцай у Навагрудку. Паўстае на землях, заселеных язычніцкім насельніцтвам. Мова рускага насельніцтва становіцца дзяржаўнай мовай Вялікага княства, што і выклікае хуткую асіміляцыю літвы — племені, верагодна, балцкага, роднаснага жамойтам — продкам сучасных летувісаў. Аднак сама Жамойція захоўвае сваю самастойнасць яшчэ амаль 200 гадоў і ўваходзіць на правах аўтаноміі ў склад Вялікага княства толькі ў пачатку XV ст. і ўжо прыняўшы хрысціянства па заходнім ўзоры, што і дазваляе ёй пазбегнуць асіміляцыі.

Дзве грамадзянскія вайны паміж партыямі каталіцкай (каталікі з'явіліся пасля хрышчэння паганскага насельніцтва вялікім князем Ягайлам) і праваслаўнай у пачатку княжання вялікага князя Вітаўта і пасля ягонай смерці насілі ўжо выразны характар барацьбы за нацыянальную дзяржаўную самастойнасць. Яны таксама скончыліся кампрамісам. Узаемна былі прызнаныя правы на суіснаванне дзвюх галоўных хрысціянскіх канфесіяў. Прынцып спадчыннай улады стаў выціскацца прынцыпам выбарнасці манарха, які кіраваў выканаўчай уладай, войскам і замежнымі справамі. Аднак заканадаўчая ўлада паступова канцэнтравалася ў руках калегіяльнага органа — Найвышэйшай Рады, а потым Сойма. Краіна набывала выразныя рысы арыстакратычнай рэспублікі.



## Нацыя

Канчаткова беларуская нацыя афармляецца паміж 1492 і 1569 гг. У канцы XV ст. падчас першай буйной вайны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і рэзка ўзмацніўшымся Вялікім княствам Маскоўскім да апошняга адышлі велізарныя ўсходнія тэрыторыі, заселеныя выключна праваслаўным («рускім») насельніцтвам, удзельныя князі якога згубілі надзею схіліць вагі дзяржаўнай улады на сваю карысць. У 1569 г. украінскія дэлегаты на Люблінскім Сойме, які абмяркоўваў лёс саюза польскага каралеўства і Вялікага княства пасля смерці апошняга прадстаўніка дынастыі Ягайлавічаў, добраахвотна прагаласавалі за далучэнне да Кароны. Тэрыторыя ВКЛ скарацілася да тэрыторыяў сучасных Летувы і Беларусі. Гэта была дзяржава з адзінай дзяржаўнай мовай, адміністрацыяй, межамі, войскам, валютай. Усімі тымі прыкметамі, якія этналогія лічыць прыкметамі нацыі. Не выпадкова, што менавіта ў гэты час адбываецца кадыфікацыя права і апошні Статут ВКЛ 1588 г. ёсць першая ў Еўропе Канстытуцыя свецкай дзяржавы, якая ўсталёўвала роўнасць у правах усіх «людзей паспалітых» незалежна ад іх веравызнання. Зразумела, свабода і «правы чалавека» тычацца толькі шляхты і маёмасных гараджанаў. Аднак не трэба забываць, што Заходняя Еўропа будзе яшчэ 70 гадоў сатрасацца ў грамадзянскіх рэлігійных войнах, пакуль не дасягне таго ж самага. А ў Расіі саслоўная дэмакратыя спозніцца на 300 гадоў, а рэлігійная верацярпімасць не наступіць ніколі. Беларусь жа з XVI ст. стала прытулкам для ўсіх гнаных. Сюды беглі пратэстанты з Польшчы і каталікі са скандынаўскіх краінаў, старавеверы з Расіі і яўрэі адусюль, дзе іх пераследвалі. Менавіта Беларусь стала той краінай, дзе талерантнасць — рэлігійная і светапоглядная цярпімасць — набыла грамадзянства, стала адметнаю рысай нацыянальнай культуры.

(Працяг будзе)

ЧЫТАЦКІ ВОДГУК

# Жыццё на каленях

У НАВІНАХ ад 19.02.99 г. надрукаваны артыкул «Остарбайтэры» атрымаюць кампенсацыю». Атрымаюць кампенсацыю «остарбайтэры» краіны, што перамагла ў Другой сусветнай вайне — ад вольных жыхароў пераможанай краіны. А калі будзе выплачвацца кампенсацыя прыгонным калгасным сялянам пасляваенных гадоў, якія падвяргаліся ў сябе дома больш жорсткай эксплуатацыі чырвонымі сталінскімі апрычнікамі, чым «остарбайтэры» ў Нямеччыне? І хто яе будзе выплачваць? Я памятаю, як у нашую вёску вярталіся тыя «остарбайтэры». Ім зайздросцілі мясцовыя калгаснікі. «Остарбайтэры» прывезлі хоць нешта са шмоткаў і ласункамі нас, дзяцей, частавалі, чаго не маглі сабе дазволіць нашыя мамы, бо за цяжкую працу не мелі нічога, апроч мазалёў на руках. Татаў нашых пастралялі калі не немцы, дык свае асабісты з кулямётаў ды аўтаматаў. У іх не было выбару — толькі наперад за Сталіна.

А каму могуць прад'явіць рахунак тыя, каго гадамі, а то і дзесяцігоддзямі знішчалі катаржнай працай на камуністычных будоўлях па павароце рэкаў Сібіры ў Сярэднюю Азію, атамных палігонах і г.д.? І чаму так здарылася, што пераможаныя ў вайне немцы маюць магчымасць выплачваць кампенсацыі пераможцам больш, чым праз 50 гадоў? І не сорамна папрашайнічаць, маючы казачныя багацці ў нетрах зямлі? Звычайна дзеляцца пірагом тады, калі ён вялікі. Хапае і сабе, і нямоглым галадаючым. Чаму ж наш пірог аказаўся настолькі мізэрным, што яго хапае толькі лукашэнкаўскаму атачэнню ды ягонай амаль паўмільённай арміі сілавікоў. Астатнія ж павінны, каб не памерці з голаду, даядаць апошні хрэн ды і то без солі. Чаму не задумваецеся над гэтымі пытаннямі вы, уладу трымаючыя? А калі задумваецеся, то чаму нічога не робіце дзеля таго, каб зламаць пачварную, таталітарнага паходжання машыну марыянеткі Лукашэнкі? Ад вас зусім мала патрабуецца. Павярнуцца тварам, а не задам да дэмакратыі, да права, да рынку і ў рэшце рэшт да выратавальнага стрыжня — нацыянальнай ідэі. Павярнуцца такім чынам, каб гэта ўбачыў лукашэнкаўскі цяпер ужо разгублены электарат. Няўжо гэта так цяжка зрабіць?

Колькі часу спатрэбіцца яшчэ, каб канчаткова пераканацца ў нежыццядзейнасці таталітарна-дзяржаўнай калгасна-саўгаснай сістэмы гаспадарання? Выходзіць, восемдзесят гадоў савецкага партыйнага бюракратызму вас нічому не навучылі. Каго і чаго вы баіцеся? Уласнага цэню? Што вы пакінеце пасля сябе сваім нашчадкам? Задумайцеся!

**Мікола ЯЎМЕНЕНКА,**
*в.Чудзенічы, Лагойскі р-н*

ВЫСТАВА

# Майстэрства сучаснага эстампа

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адчынілася выстава «Эстамп-99». На ёй прадстаўленыя гравюры чатырох мастакоў, якія ў лютым гэтага года бралі ўдзел у міжнародным мастацкім семінары ў Мінску.

Задумалі і арганізавалі гэтую сустрэчу мастакоў супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Ідэя заключалася ў тым, каб сабраць у адной друкарскай майстэрні мастакоў з розных краінаў. Удзел у семінары ўзялі прадстаўнікі Беларусі, Францыі і Германіі. Пасланцом Францыі стаў Кенет Альфрэд, выкладчык мастацтва з Нармандыі. Ён быў самым дасведчаным з удзельнікаў — 40-гадовы графік, які ў свой час атрымаў прэстыжную ў сваёй краіне Рымскую прэмію, удзельнік шматлікіх міжнародных выставаў. Германію прадстаўляў малады мастак Алівер Косак, які прыехаў у Мінск разам з майстрам-друкаром Мікаэлем Вайснерам. Замежныя госці былі ў захапленні ад высокага прафесіяналізму вядомага беларускага майстра-друкара Дзмітрыя Малаткова, у майстэрні якога праходзіла іхняя сумесная работа.

Сярод беларускіх мастакоў арганізатары спынілі выбар на Канстанціне Селіханаве і Таццяне Радзівілка. Абое яны маюць вядомасць і прызнанне і могуць годна прадстаўляць нашую краіну ў міжнародных акцыях. Як кажуць мастакі, яны не мелі на мэце стварыць супольны твор, нават не імкнуліся распрацоўваць адну тэму. Кожны працаваў у сваім стылі, сэнс акцыі заключаўся ў абмене думкамі, ідэямі, проста ў знаёмстве. За тыдзень семінара мастакі пабывалі на канцэрце «Харошак», пабачылі прэм'еру балета «Пацалунак феі», беларускія ўдзельнікі пазнаёмілі замежнікаў з нашай сталіцай. Французскі мастак К.Альфрэд у Мінску раптоўна захварэў і нават вымушаны быў вярнуцца дадому, і тым не менш мастакі не згубілі аптымізму. Творы К.Альфрэда ўпрыгожылі выставу «Эстамп-99», а на яе адкрыцці былі запрошаныя дактары «хуткай дапамогі» і 5-й клінікі Мінска, якім французскі мастак праз сваіх калегаў перадаў сваю падзяку. А самымі высокімі гасцямі адкрыцця выставы сталі паслы Францыі, Германіі і іншыя прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу. Мастацкі семінар не быў маштабнай падзеяй, і выстава твораў яго ўдзельнікаў таксама не надта вялікая, аднак міжнародныя акцыі цяпер сталі такімі рэдкімі, што і «Эстамп-99» варты ўвагі замежных дыпламатаў.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

СПОРТ

# Навука самаабароны

**У мінулыя выхадныя ў Мінску, у Фрунзенскім раённым Дзіцяча-юнацкім цэнтры, прайшлі гарадскія спаборніцтвы па кікбоксінгу, прысвечаныя 10-годдзю вываду савецкіх войскаў з Афганістана.**



Галоўным арганізатарам турніру быў кіраўнік клуба «Бенетон» Іван Казіцкі. Прэзідэнт Мінскай асацыяцыі у-шу А.Каралёў, галоўны суддзя спаборніцтваў, выказаў задаволенне высокім узроўнем турніру. Ягоную ацэнку падтрымаў віцэ-прэзідэнт асацыяцыі у-шу А.Фукалаў.

На татамі разгарнуліся сапраўдныя баі. Хлопчыкі і дзяўчынкі, не шкадуючы ні сябе, ні партнёраў, імкнуліся да перамогі. Я заўважыў жанчыну, якая не магла адвесці вачэй ад таго, што адбывалася. Гэта аказалася маці аднаго з байцоў: «Глядзець, як хлопцы дубасяць адзін аднаго, страшнавата, але — захапляльна. Параіла свайму сыну пайсці ў гэтую секцыю я. Спадзяюся, што ён будзе добрым ахоўнікам сабе і родным».

У малодшай узроставай групе (8—11 гадоў) пераможцамі сталі А.Жураўкін, А.Кароткі, Я.Лазерка, М.Курачкін, А.Баль. У групе больш старэйшых (12—13-гадовых) золата выйгралі А.Трусевіч, У.Агароднік, С.Кандраценка, М.Сідарэнкаў. Сярод дзяўчынак галоўны прыз атрымала А.Сініца. Ва ўзроставай групе 14—15 гадоў каштоўныя прызоў і медалёў дабіліся П.Сечка, І.Аксёнаў, П.Паўловіч, М.Міткевіч. Самыя старэйшыя (16—17-гадовыя) пераможцы — С.Паўлаў, А.Білейчык, С.Бланчук.

Клуб «Бенетон» існуе ўжо 10 гадоў. У ім займаецца амаль 150 хлопчыкаў і дзяўчынак ва ўзросце ад 6 да 17 гадоў. Толькі летась члены клуба атрымалі 70 медалёў на розных спаборніцтвах.

**Уладзімір МІХАЛЬЦОЎ**



***Палітычная эліта Расіі шукае нацыянальную ідэю «па ўсёй Русі вялікай» і ніяк не можа яе знайсці. Мабыць, таму ўсе СМІ Расіі поўняцца антынацыяналізмам.***

***Не адстае ад Расіі і Беларусь. Яна таксама шукае дзяржаўную ідэю — як іншымі словамі прывабна агучыць неакамуністычную ідэалогію, якая пануе ў дзяржаве.***

# Нацыяналізм – падмурак сацыяльнай гармоніі

У апошняе дзесяцігоддзе словам «сепаратызм» палітыкі пужаюць адзін аднаго, страшаць свае народы наступствамі сепаратызму і вядуць з ім барацьбу ўсімі сродкамі, уключаючы і зброю. Такая распаўсюджанасць сепаратызму азначае: ва ўсіх кутках планеты ідзе апошняя стадыя дэкаланізацыі народаў. Чалавецтва ў бліжэйшыя паўстагоддзя павінна вырашыць глабальныя праблемы экалогіі, дэмаграфіі, безальтэрнатыўнага раззбраення, пераводу энергетыкі на ўзнаўляльныя крыніцы энергіі, спыніць падзенне духоўнага патэнцыялу. У іншым выпадку катастрофа цывілізацыі непазбежная. Гэта вывады альтэрнатывістыкі.

Паўстае пытанне: «Ці мае чалавецтва рэзервы, ці можа яно мець сістэмы поглядаў, ідэяў, каштоўнасцяў, якія б пры ўсёй іх разнастайнасці былі б накіраваныя на вырашэнне глабальных праблемаў?»

Такія рэзервы выяўляе тэарэма Фішара, якая сцвярджае: «Чым вышэй генетычная разнастайнасць віду, тым вышэй патэнцыйныя магчымасці яго развіцця». Гэта азначае, што нават самы маленькі народ з'яўляецца для чалавецтва велізарным багаццем. Нацыя — самая вялікая каштоўнасць, якую стварыла цывілізацыя за тысячагоддзі. Гэта магутны валадар генафонду, ведаў, уменняў, адвечнага вопыту пражывання ў пэўных геаграфічных умовах на канкрэтнай тэрыторыі, пэўнага менталітэту. Гэта носьбіт часткі агульначалавечых каштоўнасцяў у выглядзе сваёй культуры. Менавіта народы ствараюць генетычную разнастайнасць чалавецтва, а значыць, і патэнцыйныя магчымасці развіцця. Асіміляцыя любога народа — найвялікшае злачынства супраць чалавечай цывілізацыі і агульначалавечых каштоўнасцяў.

Нядаўна адкрыты закон энергетычнай неэфектыўнасці вялікіх дзяржаваў павышае значнасць тэарэмы Фішара ў сацыяльнай сферы. Аказваецца, дзяржавы плошчай звыш 500 тысяч кв. км з'яўляюцца энергетычна неэфектыўнымі: узрастае кошт перавозак на адзінку ўнутранага валавога прадукту; розныя ландшафтна-кліматычныя зоны патрабуюць пераразмеркавання вялізарных матэрыяльных сродкаў на дзяржаўным узроўні, каб падтрымліваць аднолькавы жыццёвы ўзровень насельніцтва; законы дзяржавы не могуць быць аптымальнымі для ўсёй краіны, бо яны дзейнічаюць у сацыяльным асяроддзі людзей з розным менталітэтам. Энергетычныя затраты на аднаго чалавека пры аднолькавым жыццёвым узроўні ў гэтых краінах павялічаныя.

З усіх існуючых ідэалогіяў толькі адна знаходзіцца ў поўнай гармоніі як з тэарэмай Фішара, так і з законам энергетычнай неэфектыўнасці вялікіх дзяржаваў. Гэтая ідэалогія — нацыяналізм. Менавіта яна разглядае нацыю як гістарычную супольнасць людзей, як адзіную гарманічнае цэлае з аднолькавымі асноўнымі інтарэсамі ўсіх яе сацыяльных групаў. Ідэалогія накіроўвае развіццё нацыі, з выкарыстаннем, у першую чаргу, сваіх біялагічных, геаграфічных, выкапнёвых, зямельных, сацыяльных і іншых унутраных рэсурсаў. Яна падтрымлівае агульнавядомыя вывады класічнай эканомікі, што ў аснове гаспадарчай дзейнасці людзей павінны ляжаць асабістая ўласнасць на капітал і зямлю плюс эгаізм людзей і іх схільнасць да абмену. Нацыяналізм разглядае рынак і інтэграцыю як неад'емныя элементы тэхналагічнай цывілізацыі, якія фармуюць у міжнародных адносінах палітыку разумнага прагматычнага рэалізму, заходным і адзіным крытэрыем якога з'яўляецца нацыянальны інтарэс, заснаваны перш за ўсё на забеспячэнні эканамічнай выгады і рэалізацыі фундаментальных правоў.

Сутнасць ідэалогіі сацыяльнай гармоніі выражаецца канцэнтравана наступнымі простымі палажэннямі:

*— Нацыя з'яўляецца базавай ячэйкай тэхналагічнай цывілізацыі, яе фундаментам, разбурэнне якога вядзе да дэградацыі і разбурэння цывілізацыі.*

*— Раўнапраўны саюз свабодных нацыяў (ні ў якім разе не дзяржава нацыяў) пры тэхналагічнай інтэграцыі (не экспансіі, не асіміляцыі) — аснова новага ўзроўню развіцця цывілізацыі.*

Ідэалогія сацыяльнай гармоніі накіраваная супраць імперскіх палітычных элітаў з іх шавіністычнымі памкненнямі стварыць імперыі на аснове дэнацыяналізацыі і экспансіі больш моцных нацыямі менш моцных.

Ідэалогія сацыяльнай гармоніі кладзе канец несумленным спекуляцыям ідэолагаў рознага кшталту ў адносінах да ідэалогіі нацыяналізму, да нацыі, яе ролі ў тэхналагічнай цывілізацыі.

**Валеры АРЦІШЭЎСКІ,**
*сустаршыня Беларускай рэспубліканскай партыі*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 514 Нумар падпісаны ў друк 23/02/99 (15:00) Наклад — 17.340
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі